# КРЫНІЦА

№4 (28) ТРАВЕНЬ 2012 www.bchd.info





# Віталь Рымашэўскі.

## Ад народнага байкоту выбараў да агульнанацыянальнага байкоту рэжыму

**Пасля кожнага паходу апазіцыі на «выбары» рэйтынг даверу народа да дзеючай улады павялічваўся, расла ўпэўненасць грамадзян краіны, што ў Беларусі выбары адбываюцца свабодна. (Усе жадаючыя могуць пераканацца ў гэтым, вывучыўшы матэрыялы сацыялагічных даследаванняў НІСЭПД).**

Выключэннем з'яўляецца толькі кампанія 2010 года. Але ў снежні 2010-га ўлады самі падарвалі давер народу брутальным разгонам дэманстрацыі, арыштамі кандыдатаў у Прэзідэнты, масавымі рэпрэсіямі. З розных прычынаў дэмакратычныя сілы не змаглі выпрацаваць агульную стратэгію на 2012 год. Ва ўлады такая стратэгія ёсць, і яна паэтапна рэалізуецца. Яе сутнасць зводзіцца да наступнага:

Прысутнасцю апазіцыйных кандыдатаў забяспечваецца яўка выбаршчыкаў на «выбары». У «палатку» прызначаюцца некалькі чальцоў апазіцыйных арганізацый. Потым з гэтых людзей паспрабуюць зрабіць аснову для «сістэмнай» апазіцыі. Захаду ўлада «прадае» выбары як дэмакратычныя альбо «больш дэмакратычныя, чым мінулыя» і патрабуе прызнання выбараў і аднаўлення палітычных і эканамічных кантактаў, падмацоўваючы свае словы абяцаннямі выпусціць не-




калькіх палітвязняў. Акрамя таго, выбары па такім сцэнары павялічваюць легітымнасць рэжыму сярод насельніцтва краіны.

У гэтай сітуацыі адзінае дзеянне, колькі-небудзь небяспечнае для ўладаў – БАЙКОТ. Байкот не толькі зрывае планы ўладаў на бліжэйшыя «выбары», паспяховая кампанія байкоту стане першым крокам да нацыянальнага негвалтоўнага супраціву рэжыму. Асноўная стратэгія негвалтоўнага супраціву – адмова падтрымліваць незаконную ўладу.

Рэжым Лукашэнкі добра падрыхтаваны да падаўлення масавых акцый пратэсту, але ён не можа абысціся без падтрымкі грамадзян. Кожны чалавек выходзіць на працу, плаціць падаткі, ідзе на выбарчы ўчастак. Супраціў – гэта не толькі гатоўнасць выйсці на плошчу, гэта і здольнасць аб'яднацца, паставіць ўмовы перад рэжымам і, калі ён не выконвае закон, разам адмовіцца яго падтрымліваць ...

Калі ўлады адмаўляюць народу ў праве на свабодныя выбары, народ мае канстытуцыйнае права на агульнанацыянальны страйк. Відавочна, што сёння беларусы не гатовыя да такіх масавых актаў пратэсту. Рэжым выкарыстоўвае страх як сваю галоўную зброю. Беларусы баяцца страціць працу, баяцца арыштаў, баяцца рэпрэсій ... Страх стаў асновай і духоўнай сутнасцю дзеючай улады.

Байкот «выбараў» дазволіць зрабіць першы крок у пераадоленні гэтага страху, першы невялікі крок да арганізаванага народнага супраціву.

За байкот практычна аднагалосна прагаласавалі ўдзельнікі мітынгу 25 сакавіка 2012 года – тыя, дзякуючы каму сёння існуе дэмакратычная апазіцыя, тыя, хто ўжо сёння кінуў выклік рэжыму. Заўтра да гэтых людзей далучацца мільёны беларусаў.

Кампанія байкоту не скончыцца з парламенцкімі выбарамі. Дзень «выбараў» 2012 года будзе толькі адным з этапаў кампаніі па вызваленні беларускага народа ад страху і дыктатуры.



# У Менску прайшоў Дзень Волі

**У Менску 25 сакавіка, у Дзень Волі, адбыўся мітынг і шэсце, прымеркаваныя да чарговай гадавіны абвяшчэньня ў 1918 годзе незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Нягледзячы на дождж і вецер, разнастайныя перашкоды з боку ўладаў мерапрыемства сабрала больш за 5000 чалавек, стаўшы тым самым найбуйнейшым Днём Волі з 2007 году.**

Хоць улады і дазволілі мітынг, але ўсяляк перашкаджалі яго правядзеньню. Так, цягнікі на Акадэміі навук, дзе пачынаўся збор удзельнікаў не спыняліся, на плошчу Бангалор прапускалі толькі праз турнікеты, машыну з гукаўзмацняльнай апаратурай затрымалі і гэтак далей. Па дарозе на мітынг быў затрыманы таксама і сябар Нацыянальнай Рады БХД Вадзім Кабанчук. Машына, на якой ён ехаў, ужо больш за месяц «чакае праверкі» ў міліцыі, а ўлёткі і расьцяжкі, што былі ў ёй, сканфіскавалі.

Сам жа мітынг і шэсьце прайшлі ў атачэньні міліцыянтаў пад пільнымі аб'ектывамі відэакамер людзей у цывільным.

Практычна ўсе ўдзельнікі мітынгу на Дзень Волі на Плошчы Бангалор падтрымалі заклік абвясціць усенародны байкот рэжыму, які кіруе ў Беларусі, у тым ліку парламенцкім выбарам, якія пройдуць сёлета.

«Мы, безумоўна, падтрымліваем гэта. Усе беларускія палітыкі павінны прыслухацца да гэтага меркавання, бо менавіта на плячах гэтых людзей, якія прыйшлі на сённяшні мітынг, трымаюцца ўсе беларускія дэмакратычныя сілы», – адзначыў сустаршыня Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Віталь Рымашэўскі.










# У Менску адбыўся Чарнобыльскі шляху








**У Менску 26 красавіка ў 26-ю гадавіну Чарнобыльскай трагедыі прайшлі мітынг і шэсьце «Чарнобыльскі шлях». Галоўнай яго тэмай стала патрабаваньне адмены будаўніцтва Астравецкай АЭС і вызваленьня палітвязьняў. Мерапрыемства сабрала да дзьвюх тысяч чалавек.**

У гэты раз, як і 25 сакавіка, цягнікі на станцыі метро Акадэмія навук не спыняліся, людзей атачалі міліцыянты ў форме і безь яе, а гукаўзмацняльную апаратуру сканфіскавалі. Аднак паводзіны «праваахоўнікаў» у гэты раз былі больш брутальнымі: былі затрыманыя каля 40 чалавек, у тым ліку і актывісты Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі Мікола Дземідзенка, Раман Васільеў і іншыя. Сябраў БХД на наступны дзень пасадзілі на 15 сутак за нібыта дробнае хуліганства.

Мітынг скончыўся каля Чарнобыльскай капліцы, дзе ўдзельнікі мітынгу запалілі зьнічы і ўсклалі кветкі ў памяць аб ахвярах «мірнага атаму».

«Нажаль у нашых умовах даводзіцца запланоўваць канфіскацыю апаратуры, мы да гэтага былі гатовыя. Я маю на ўвазе гукаўзмацняльную апаратуру, якую не далі ўсталяваць на плошчы Бангалор, але акцыяй у цэлым мы задаволеныя, адзінае чаго хацелася б, каб людзей было больш. «Чарнобыльскі шлях» – гэта традыцыйная акцыя, якая на маю думку павінна праходзіць у любым выпадку, незалежна ад таго, на колькі гэта праблематычна, бо Чарнобыльская катастрофа да сённяшняга актуальная ў Беларусі», – адзначыў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі.



# Беларускія моладзевыя арганізацыі аб'ядналіся дзеля байкоту рэжыму

**Беларускія моладзевыя арганізацыі выпрацавалі адзіную платформу дзеянняў у кампаніі байкоту парламенцкіх выбараў у Беларусі «Ігнор-2012». Яны абвясцілі яе на прэсавай канферэнцыі 19 красавіка.**

«Маладыя дэмакраты» АГП і «Змена» з руху «Гавары праўду».

«Сёння мы, дэмакратычная моладзь краіны, аб'ядналіся для сумесных дзеянняў у межах надыходзячай выбарчай кампаніі і заклікаем да яднання ўвесь беларускі народ адзіным маральным шляхам: байкоту гульням з дыктатарам!

Сёння, ігнаруючы так званыя выбары, мы кажам: НЕ ганебнаму стаўленню ўладаў да беларускага народу! НЕ існуючаму рэжыму ў краіне!

І мы спадзяемся, што шляхам татальнага ігнору дыктатарскіх гульняў дойдзем да ўсенароднага і канчатковага супраціву рэжыму!




У кааліцыю ўвайшлі Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты, «Малады фронт», «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку», моладзь «Еўрапейскай Беларусі», «Маладыя сацыялдэмакраты — Маладая грамада»,

Сёння мы заклікаем увесь беларускі народ: Не быць скотам! Бо менавіта так выглядаюць людзі, якіх зганяюць з працоўных альбо навучальных устаноў на выбарчыя пляцоўкі!

Бо, усе мы з вамі верым у светлую будучыню нашай краіны, і таму безумоўна можам, а значыць абавязкова пераможам! Жыве Беларусь!», - адзначыла сустаршыня МХД Марына Хоміч.

# Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты Літвы і Беларусі падпісалі пагадненне аб супрацы

**Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты Беларусі і Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты Літвы (Jaunieji krikščionys demokratai) падпісалі пагадненне «Аб супрацоўніцтве і ўзаемападтрымцы».**




Пагадненне падпісалі з беларускага боку сустаршыня МХД Марына Хоміч, з літоўскага – старшыня JKD Артурас Скрінска.

Дамова прадугледжвае супрацоўніцтва паміж арганізацыямі (у тым ліку правядзенне сумесных кампаній) дзеля ўсталявання дэмакратычнага ладу на Беларусі.

# Гарадзенсія сябры БХД перадалі сям'і Сяргея Каваленкі фінансавую дапамогу



**Гарадзенскія сябры аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» сабралі для сям'і віцебскага палітзняволенага актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленкі 1,2 мільёны рублёў.**

Пра гэта паведаміў гарадзенскі абласны каардынатар БХД Мікола Баўсюк.

Ён таксама распавёў, што гарадзенская філія БХД выдала другі нумар сваёй газеты «Крыніца Гарадзенская». Нумар прысвечаны гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі, дзеячам БХД Вінцэнту Гадлеўскаму і Адаму Станкевічу, актуальным падзеям з жыцця Гарадзеншчыны і дзенасці БХД, спорту.

Апроч таго, па словах Міколы Баўсюка, 27 сакавіка ў Горадні прайшла вечарына, прысвечаная Дню Волі. На ёй удзельнікам распавялі пра гісторыю БНР на Гарадзеншчыне.

Акрамя гэтага, Гарадзенскія сябры БХД выпусцілі новы нумар газеты гарадзенскай абласной арганізацыі «Крыніца Гарадзенская».

Нумар прысвечаны актуальным падзеям сучаснасці, дзейнасці і гісторыі БХД, падзеям з жыцця Гарадзеншчыны, спорту і г.д.

# Моладзь БХД правяла антыядзерную акцыю ў Берасці

**У Брэсце моладзь Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі правяла акцыю «1986-201?». Актывісты ў процівагазах раздавалі мінакам паштоўкі, на якіх былі намаляваныя наступствы катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.**

«З моманту чарнобыльскай трагедыі мінула ўжо 26 гадоў, але боль па-ранейшаму жыве ў нашых сэрцах. Радыёактыўны попел прайшоў па ўсёй Еўропе і накрыў шматпакутную Беларусь. Наступствы аварыі па ліку ахвяр адсунулі далёка назад атамную бамбардзіроўку Хірасімы. Чарнобыль не можа знікнуць – яго можна забыцца, але ён і праз 100 гадоў будзе нагадваць пра сябе народу – ядзерным запаведнікам і землямі, непрыдатнымі да жыцця; радыёактыўнымі дажджамі і хваробамі. Моладзь БХД правяла акцыю менавіта, каб паказаць людзям, які жах можа прыйсці ў Беларусь», – распавядае актывіст Яўген.

Актывісты раздалі 200 паштовак і развесілі па горадзе 10 таблічак з тэкстам «Не АЭС» і «1986-201?».

Актывіст БХД Уладзіслаў пракаментаваў: «Калі мы ўспомнім гісторыю, будавалі чарнобыльскую АЭС ударнымі тэмпамі – амерыканцы і японцы будуюць такія аб'екты па 10-15 гадоў, савецкія ўдарнікі здалі праект за два гады. Астравецкая АЭС павінна быць пабудаваная да 2016 года, вас гэта не палохае? Мы не хочам, каб беларускія гарады станавіліся падобнымі да Прыпяці і Чарнобыля. Многія краіны цалкам адмаўляюцца ад ядзернай энергіі. Спадзяюся, людзі задумаюцца пра гэта».





# У Віцебску адбылася чарнобыльская малітва



**У Віцебску 26 красавіка ў чарговую гадавіну выбуху на Чарнобыльскай АЭС ля крыжа Еўфрасінні Полацкай на Успенскай гары адбылася малітва за ахвяраў трагедыі і ўсіх тых, хто пацярпеў ад яе наступстваў, а таксама за будучыню Беларусі.**

Як паведаміла віцебская абласная каардынатарка аргкамітэту па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Тацяна Севярынец, удзел у акцыі ўзялі вельмі шмат людзей, у тым ліку прадстаўнікі розных дэмакратычных партый і арганізацый.

Пры гэтым за ўдзельнікамі малітвы сачылі мноства людзей у цывільным, аднак абыйшлося без затрыманняў.

# Падатковая патрабуе ад кіраўніка рагачоўскага БХД спыніць прадпрымальніцкую дзецнасць

**Падатоквая інспекцыя патрабуе ад каардынатара аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» па Рагачове Дзяніса Дашкевіча, якога ў мінулым месяцы звольнілі з працы, спыніць цяпер яшчэ і сваю прадпрымальніцкую дзейнасць.**



Як паведаміў Дзяніс Дашкевіч прэс-службе БХД, на мінулым тыдні яму патэлефанавалі з Рагачоўскай падаткавай інспекцыі і запатрабавалі зачыніць ягонае ІП на той падставе, што гэтага патрабуе Гомельскі аблвыканкам:

«Як мне паведаміла нашая інспектарка, якая не назвалася, Рагачоў не ўкладваецца ў планы непрацуючых прадпрымальнікаў, якія на мяжы банкруцтва. Таму яны просяць, каб непрацуючыя прадпрыймальнікі зачынялі свае ІП, каб зменшыць гэты працэнт.

Як індывідуальны прадпрымальнік я займаюся фота і відэаздымкамі. І гэтае патрабаванне – відавочны пераслед, бо я працую з вялікай колькасцю людзей, і яны атрымліваюць ад мяне альтэрнатыўную інфармацыю. Мая дзейнасць стварае наўпроставую канкурэнцыю мясцоваму Камбінату бытавога абслугоўвання. Былі выпадкі, што ў аддзеле ЗАГСу адмыслова папярэджвалі, каб не замаўляць здымкі вяселляў у Дашкевіча.

# У Бабруйску спецслужбы спрабуюць дыскрэдытаваць БХД

**У Бабруйску спецслужбы распачалі кампанію дыскрэдытацыі мясцовых дэмакратычных актывістаў.**

Гэтак, на дзверах і вокнах крамы, у якой працуе абласная каардынатарка аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Таісія Кабанчук, 19 красавіка з’явіліся ўлёткі з яе фота, і абразлівым тэкстам пра яе. Улёткі былі прымацаваныя налепкамі БХД. Пазней улёткі з’явіліся ўжо і на доме, у якім пражывае Таісія Кабанчук.

За дзень да таго ў пад’ездзе мясцовай дэмакратычнай актывісткі Галіны Смірновай невядомыя раскідалі па паштовых скрынях і наляпілі на сцены паклёпнкіцкія ўлёткі пра яе і яе сям’ю. Да сценаў яны былі прымацаваныя зноў-такі налепкамі БХД.

Дадзеныя спробы дыскрэдытацыі Таісія Кабанчук лічыць помстай за тое, што яна «засвяцілася» на мітынгу на Дзень Волі 25 сакавіка. «Гэтым займаюцца тыя, хто не рэгіструе нашу партыю і іншыя арганізацыі, тыя, хто баіцца грамадска актыўных людзей. Пасля таго, што здарылася з Галінай Смірновай, я ўжо чакала, што яны дабяруцца і да мяне, як яны гэта зрабілі ў мінулым годзе. У сваіх дзеяннях яны ўжо апусціліся да ўзроўню дзіцячай пясочніцы», – адзначыла каардынатарка БХД.

Таісія Кабанчук паведаміла, што хутчэй за ўсё на гэтыя дзеянні будзе падаваць заяву ў міліцыю.



# Палітыка – проста нашае жыццё



**Прапануем вашай увазе артыкул Юліі Фраловай. Юля Фралова – каталіцкая верніца, аніматар каталіцкага руху «Святло-Жыцьцё», студэнтка тэалёгіі папскага аддзелу тэалёгіі ў Варшаве, сябар Нацыянальнай рады БХД.**

«Заўсёды цікавілася тым, што адбываецца навакол. Але сёння ў грамадзтве прынята называць «палітыкай» любую справу, якая тычыцца навакольнага сьвету. Каб схаваць сваю абыякавасьць ці страх, людзі адмахваюцца ад пагрозы цяжкай жыцьцёвай тэмы, якая можа сапсаваць супакой. «Гэта ўсё палітыка!» – грэбліва адмахваюцца ў адным выпадку тыя, якія ў іншым спакойна ў ёй ўдзельнічаюць... Смутна...

Молішся за краіну – палітыка, молішся за беспадстаўна асуджаных – палітыка, выходзіш да людзей, каб падаць ім руку, каб хоць трошкі ўказаць на Госпада, як на Таго, Хто сапраўды любіць і дапамагае – палітыка, бо не да тых і не там... Парадокс: міліцыя амаль на сілу вядзе маліцца ў касьцёл, і сьмех і сьлёзы... Так было ў Польшчы ў камуністычныя часы: дзейнасьць сьвятароў і Касьцёла – толькі ў закрыстыі, у касьцёле... У публічным жыцьці, у школах? О не!

Мне ўжо самой моташна чуць адное і тое ж, як бы лек на ўсё, тлумачэньне кожнаму граху: «П А Л І Т Ы К А»! А што гэта такое, гэта вашая палітыка, з чым яе ядуць? Ці калі пры табе зьбіваюць чалавека тыя, якія павінны ахоўваць – палітыка? Ці тое, што нельга казаць праўду, бо можаш апынуцца ў вязьніцы – палітыка? Ці тое, што амаль зьнікае наша мова, культура – палітыка? Ці тое, што ледзь хапае заробкаў на аплаты і ежу – палітыка? Ці тое, што суддзі, пракуроры, «слугі права» нахабна, беспадстаўна асуджаюць найлепшых людзей Беларусі, наш гонар, калечаць маладое жыццё – палітыка? Ці тое, што ўсе ведаюць, што уладу ў краіне ўтрымліваюць сілай і фальсіфікацыяй – палітыка? Ці тое, што матулі дасёньня чакаюць сваіх сыноў, бо зьніклі толькі таму, што хацелі жыць у праўдзе і годнасьці – палітыка? Што Касьцёлу не даюць зямлю пад будову, што цяжкасьці з рэгістрацыяй замежных сьвятароў і манашак, што дзякуючы закону, больш за трох не зьбірацца, невядома як праводзіць працэсію – Богаслужэньне, што калі сьвятар штосьці не так сказаў, выклікаюць, каб пісаў тлумачальную запіску – палітыка? Што мы ходзім штодзённа побач помніка крывавага ката Леніна, па вуліцах катаў – палітыка? Што ў нашых лясах ляжаць нявінна забітыя людзі, кроў якіх, можна сказаць, на ўсіх нас, бо яны не пахаваныя годна, бо нават няма набажэнстваў на могілках – палітыка? І гэты сьпіс можна працягваць у бясконцасьць! Дзе ж мы знаходзімся? У Беларусі...

Людцы даражэнькія, абудзіцеся, калі ласачка! Не будзе ў нас будучыні без падсумаваньня нашага мінулага. Яно будзе цягнуцца за намі крывавым сьлядом! За нашымі дзяцьмі і ўнукамі! Бо як Бог дабраслаўляе праведных на шмат пакаленьняў, так і праклён, які чалавек, ці нацыя абірае, цягнецца шмат пакаленьняў. Трэба нам пакаяцца і навярнуцца, і ў палітыцы, бо гэта нашае з Вамі штодзённае жыцьцё.

Чаму ў палітыцы павінны быць толькі бандыты і дрэні? Там павінны таксама быць і добрыя, сумленныя, сьвятыя людзі. І, напэўна, кожны народ марыць, каб людзі, якія знаходзяцца пры ўладзе, былі б добрымі і сумленнымі, веруючымі людзі, якія б кіраваліся правам, праўдай, справядлівасьцю, ахвярнасьцю, міласэрнасьцю. Каб яны служылі народу, а не народ служыў ім. І веруючыя людзі, напэўна, таксама марылі аб такім кіраўніцтве ў краіне. Чаму мы самі з вамі чынім палітыку бруднай справай? Думаеш, што не займаешся палітыкай, дык памыляешся, падумай – штодзённа займаешся, тым больш, што яна табой і так займаецца! Усе мы разумеем, што мы жывем на зямлі, а не ў небе. А на зямлі ёсьць краіны, межы, народы, культуры, ёсьць сістэмы пэўнага парадку, у якім жывуць людзі, а значыць, палітыка – гэта проста наша жыцьцё.

Я думаю, што д'ябал папросту хаваецца за такімі шыльдамі, адводзячы ўвагу ад вельмі важных справаў, каб зблытаць людзей, каб яны не зьвярталі ўвагу на нешта вельмі важнае. Да абсурду даходзяць, калі кажуць, што молячыся за Беларусь, ты займаешся палітыкай. І, калі б чалавек падумаў, асэнсаваў, ён бы зразумеў, што гэта не так. Магчыма, за гэтым таксама хаваецца страх і недавер да тых людзей, якія займаюцца палітыкай. Можа прыйшоў час, каб у гэтай сфэры штосьці зьмяніць? Сацыяльнае навучаньне Касьцёла кажа, што трэба, каб вернікі ангажаваліся ў палітыку.

Шмат людзей пытаецца, чаму ніхто з касьцельных структураў не выказваецца на гэтыя тэмы, а калі і выказваецца, то вельмі асьцярожна і неахвотна. Шмат хто хацеў бы пачуць пазіцыю Касьцёла і мае на гэта права. Людзі, якія зьвяртаюцца да сьвятароў, прыходзяць ня толькі дзеля таго, каб тыя ўдзялілі ім Сакрамант, ахрысьцілі, асьвяцілі машыну ці хату, дабраславілі, але таксама зьвяртаюцца па канкрэтныя духовыя парады, як сябе паводзіць у жыцьці. Ведаю, што

сьвятары не заўсёды ведаюць, што адказаць. Чаму? Калі гэта сьвятары з замежжа, якія ўсё вельмі добра разумеюць, але маўчаць, таму што іх могуць проста выдаліць з Беларусі, а гэта будзе вялікі пройгрыш, таму што, калі яны застануцца, больш зробяць карыснай духовай працы для нашай краіны. Сьвятары з Польшчы – гэта вялікі дар для нас беларусаў, хаця б ужо таму, што былі выхаваны ў антыкамуністычнай каталіцкай Польшчы, з якой паходзіў вялікі папа Ян Павал II. Палякі змагаліся за сваю вольнасьць і ўмеюць цаніць свабоду і сваіх герояў. Нашыя сьвятары выхаваныя ў нашых звычайных сем'ях, у нашым грамадстве, прасякнутым бязбожніцкім камуністычным духам. Нашыя сьвятары самі патрабуюць грамадскай фармацыі.

Як каталіцкая верніца цаню сваіх пастыраў, іерархаў і сьвятароў, малюся за іх, удзячна за іх ахвярную працу, спачуваю, што ім даводзіцца працаваць у такой складанай сітуацыі. Але ж, як духовая дачка, таксама чакаю ад іх айцоўскага, мужнага і мудрага сьведчаньня. Ваша паства і людзі, якія патэнцыйна могуць стаць вернікамі, чакаюць ад Вас мужных крокаў сьведчаньня Евангелля Хрыста! Не трэба баяцца! Госпад не пакіне Свайго Касьцёла. Духоўная ўлада – самая моцная, трэба толькі прыняць яе і паверыць, што яна нашмат мацней за іншыя! Так, як Ісус, Ян Прадвесьнік, Ян Павал II з моцай і аўтарытэтам прапаведвалі ўсім, і «моцным гэтага сьвету».

19 сьнежня 2010 года сотні людзей пасьля жахлівага разгону маніфестацыі супраць фальсіфікацыі выбараў трапілі ў вязьніцы. І праз год людзі, ведаючы, што ля касьцёла адбываецца малітва, што людзі верна трываюць у малітве за краіну, за тых, хто сядзіць у вязьніцы, прыйшлі да касьцёла, а не некуды на плошчу. Для мяне гэта вельмі сімвалічна. І тут улада паказала ўвесь свой цынізм, забіраючы людзей з малітвы. Так, Алеся Макаева ў той момант, калі ён сапраўды шчыра маліўся, забралі і затым пасадзілі на суткі за «брыдкаслоўе».

У такі момант веруючыя людзі разам з пастырамі не павінны маўчаць. Можна сказаць словамі Бібліі: бо добрыя тыя пастыры – хто ахоўвае свае авечкі, тыя, якія з надыходам ваўка не ўцякаюць, якія аддадуць жыцьцё за людзей гэтай краіны. Так як Госпад Ісус Хрыстос.

Да патрыятызму трэба дарасьці нам усім. І ў гэтым нам мусяць быць прыкладам розныя сьвятыя, у тым ліку і бласлаўлёны Ян Павал II. Вялікая любоў да ўсіх народаў не перашкаджала яму быць палякам і вялікім патрыётам сваёй Айчыны. Ён пераживаў за тое, што адбывалася. Ён, нягледзячы ні на што, прыяжджаў з Евангеллем у складаны час у сваю Айчыну. У ім была вялікая моц, малітва і любоў, а калі ёсьць моц, малітва і любоў, то няма страху.

Тут да месца і прыклад ксяндза Ежы Папялушкі, духоўнага пастыра «Салідарнасьці», сьвятара зь беларускай сям'і, які стаў з пакрыўджанымі людзьмі, які не пакінуў іх, якога закатавалі толькі за тое, што ён маліўся за Айчыну, за тое, што ён быў спаведнікам і духаўніком людзей, якіх хацела зьняволіць гэтая ўлада. Ён бачыў гэта духоўнымі вачамі, называючы па імені тое, што адбывалася. Ён не хлусіў і не абарочваў нічога ў прыгожыя словы і падтэксты, а казаў праўду.

Прыклад сьвятой Жанны д'Арк. Калі б не яна, то Францыі, магчыма, не было б на мапе. Бог узбудзіў маладую дзяўчыну, якая стала гетманам, якая таксама аддала сваё жыцьцё за справу Айчыны.

Не можа быць духоўнай шызафрэніі, што ў касьцёле мы адныя, а ў жыцьці мы паводзім сябе так, нібы нас не хвалюе тое, што адбываецца навокал. Тут трэба ўзгадаць хаця б Запавет міласэрнасьці: суцяшаць тых, каго перасьледуюць, хто плача, наведваць вязьніцы, быць міласэрнымі. Так, заснавальнік руху «Сьвятло Жыцьця» Францішак Бляхніцкі ішоў на малітву разам са статыстыкай, каб ведаць, што адбываецца ў сьвеце ў пляне палітыкі, абортаў, разводаў, ведаць, аб чым трэба маліцца, якая тэндэнцыя ў гэтым сьвеце, бо малітва сьвятых зьмяняе і падтрымлівае сьвет.

Немагчыма быць веруючым чалавекам і засланяцца ад таго, што адбываецца вакол. Немагчыма быць веруючым чалавекам і не любіць сваёй краіны. Але любіць краіну значыць таксама прызнаваць слабасьці і грахі, каб перапрасіць за гэта ўсё і зьмяніць гэта.

Тое, што людзей забіраюць, што іх застрашаюць, што на Божае Нараджэньне і Вялікдзень паставілі аўтазакі ля касьцёлаў – ганебны знак таго, што ўлады хочуць застрашыць сьвятароў і вернікаў. Яны ўвесь час паказваюць сваю моц, сваё прагненьне гвалту, трыманьня ў страху людзей, каб іх баяліся. Але тут нельга баяцца. Калі мы не баімся, у Божым Духу і ў Божай праўдзе трываем, мы павінны супрацьстаяць злу і д'яблу. Так кажа Слова Божае.

Трэба паказаць і ўладзе, і людзям, якія маюць уладу, што нельга на сьвятое падымаць рукі, нельга ісьці супраць Бога, бо Божае пакараньне адбудзецца. Бог міласэрны, Бог ёсьць любоўю, але таксама Бог – Справядлівы Суддзя. Павінны баяцца якраз-такі тыя, хто робіць крыўду і зло. Канечне, мы молімся за іх навяртаньне, і вельмі б цешыліся, калі б яны навярнуліся, пакаяліся і пачалі б зараз рабіць зь вялікай сілай дабро, каб выправіць усе свае памылкі і ўсё, што было зроблена.

Але пакуль гэтага не адбываецца, яны павінны ведаць, што нельга ісьці супраць малітвы, супраць вернікаў, супраць Бога, супраць увогуле чалавека і жыцьця. Яны павінны ведаць, што не маюць аніякай улады, аніякага дазволу забіраць людзей за малітву, ці за праўду, караць іх хлусьлівым судом за яе. Нельга ўваходзіць на тэрыторыі касьцёла і адчуваць сябе гаспадаром. Нельга падымаць руку на сьвятое – на свайго брата, на яго жыццё!

Таму тут павінен быць моцны адзіны голас Касьцёла ды вогуле ўсіх людзей сумленьня і добрай волі супраць гвалту, супраць зла і несправядлівасьці. Той, хто замахваецца на малітву, на Божае і ўвогуле на жыцьцё чалавека, павінен ведаць, што Божая помста, Божая кара прыйдзе. І прыйдзе абавязкова: калі не на гэтых людзях, то на іх дзецях і ўнуках. Мы ўсе павінны гэта ведаць і баяцца гэтага. Калі тут цяжка ўжо казаць пра годнасьць, сумленьне і сьвятое, то хаця б мець страх перад Божай карай».

# «ЗА ВОЛЮ» прапануе пашырыць крытэры прызнаньня асуджаных палітвязьнямі

**Грамадзкая ініцыятыва «За волю» прапанавала істотна пашырыць крытэры, паводле якіх праваабаронцы прызнаюць вязьняў беларускіх турмаў палітзьняволенымі.**

Колькасьць палітзьняволеных у Беларусі розьніцца ў залежнасьці ад меркаваньня праваабаронцаў: называюць 10, 12, а то і 16 чалавек. Адны праваабаронцы лічаць, што пад гэтае азначэньне трапляюць толькі асуджаныя за падзеі 19 сьнежня

Прыклады такой практыкі што да апанэнтаў рэжыму актывісты «За волю» ўбачылі ў справах Аляксандра Крутога і Сяргея Каваленкі. Таксама сярод крытэраў — судовы разбор, які адбыўся зь яўнымі парушэньнямі правоў грамадзяніна і гарантыяў, дадзеных Канстытуцыяй. Паводле вязьня гарадзенскай турмы Мікалая Аўтуховіча, чый ліст быў зачытаны на абмеркаваньні, сёньня ў беларускіх турмах — сотні людзей, справы якіх суды разглядалі зь яўнымі парушэньнямі. Таксама грамадзкія актывісты

Сваякам вязьняў актывісты «За волю» ўручылі Бібліі, якія былі набытыя за дабрачынныя складкі, у тым ліку на грошы, якія зарабіў на «хіміі» Павал Севярынец.

Сьпіс з 16 чалавек могуць хутка папоўніць былыя палітвязьні. На сходзе стала вядома пра завядзеньне крымінальнай справы супроць Васіля Парфянкова, які адбываў 4 гады зьняволеньня за Плошчу і быў летась памілаваны. Цяпер Васілю Парфянкову пагражаюць паўгода арышту, паўтара года зьняволеньня ці



*Маці Паўла Севярынца Тацяна Севярынец падпісвае зварот актывістаў да эўрапейскіх структураў*



*Маці Эдуарда Лобава Марына Лобава з Бібліяй, якую ініцыятыва «За волю» падаравала сваякам палітзьняволеных*

і тыя, каго ўлады перасьледавалі за барацьбу зь мясцовымі карупцыянэрамі, як у выпадку зь Мікалаем Аўтуховічам. Другія выступаюць за больш шырокія крытэры. У тым ліку — за тое, каб лічыць палітвязьнямі актывістаў анархісцкага руху, якія, паводле суду, ужывалі гвалт у змаганьні за свае палітычныя погляды.

19 красавіка грамадзкая ініцыятыва за вызваленьне палітвязьняў «За волю» абмеркавала крытэры прызнаньня палітвязьняў і прыняла свае рэкамэндацыі. Актывістка Ганна Шапуцька зачытала сьпіс гэтых крытэраў з 8 пунктаў:

«Першы — пазбаўленьне волі, ужытае зь яўна палітычных прычын бяз сувязі зь нейкім правапарушэньнем. Альбо калі ёсьць падставы меркаваць, што матэрыял аб зьдзяйсьненьні злачынства цалкам сфальшаваны. Другі крытэр — асоба пазбаўленая волі ці істотна абмежаваная ў волі, супроць асобы беспадстаўна ўжытыя захады мэдычнага ўзьдзеяньня, у тым ліку з ужываньнем сумнеўнага псыхіятрычнага дыягназу».

прапануюць лічыць палітвязьнямі тых, каго пазбавілі свабоды з парушэньнем аднаго з правоў, гарантаваных Эўрапейскай канвэнцыяй па правах чалавека: гэта свабода слова, сумленьня, рэлігіі, свабода распаўсюду інфармацыі, свабода сходаў і асацыяцый. Паводле спадарыні Шапуцькі, гэтыя прапановы зробленыя на падставе крытэраў незалежных экспэртаў Рады Эўропы.

Актывісты «За волю» падтрымалі прапанаваныя крытэры і падпісалі зварот да Рады Эўропы, Эўрапарлямэнту і кіраўнікоў краін Эўразьвязу і ЗША. У звароце пералічаныя зьняволеныя, якіх «За волю» прапануе лічыць палітвязьнямі ўжо сёньня. Гэта Мікола Статкевіч, Зьміцер Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Сяргей Каваленка, Алесь Бяляцкі, Мікалай Аўтуховіч, Павал Севярынец, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Аляксандар Францкевіч, Павал Сырамалотаў, Арцём Пракапенка, Яўген Васьковіч, Юрый Чыгілейчык, Аляксандар Малчанаў, Аляксандар Крутой.

ўмоўны тэрмін паводле абвінавачаньня ў парушэньні ўмоваў прафіляктычнага нагляду, які быў накладзены на актывіста на пачатку году за ўдзел у акцыях салідарнасьці:

«Сьледчы сказаў, што заведзеная крымінальная справа аб парушэньні мною ўмоваў прафіляктычнага нагляду. Не даводзіцца спадзявацца, што абмяжуюцца ўмоўным пакараньнем, ведаючы маю былую судзімасьць за 19 сьнежня», — пракамэнтаваў гэтыя зьвесткі Васіль Парфянкоў «Свабодзе».

Васіль Парфянкоў прызнаў, што ў яго былі тры парушэньні ўмоваў нагляду. «Адзін акт быў складзены, калі выйшаў у краму, а тут прыйшлі з праверкай. Другі раз на 15 хвілін спазьніўся адзначыцца», — паведаміў Васіль Парфянкоў.

Прафіляктычны нагляд раней быў усталяваны таксама над былымі палітвязьнямі Ўладзем Яроменкам і Паўлам Вінаградавым.

*Радыё Свабода*

# БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЬЦЯГ ХРЫСТА

**Калі бачыш бел-чырвона-белае, вочы міжволі прымружваюцца, як ад сьвятла. Сэрца пачынае біцца буйней, а ўсхваляваная душа ўскалыхвае ўсё цела.**



Бел-чырвона-бела сьцяг – найвялікшы беларускі сымбаль, наймацнейшая канцэнтрацыя сэнсу нацыянальнае ідэі, зашыфраванае імя Беларусі.

Бо вось ужо дзьве тысячы гадоў гэта – сьцяг Ісуса Хрыста.

Усё проста: белая палатніна, у якую, згодна з габрэйскім звычаем, на пахаваньні загарнулі скрываўленае цела ўкрыжаванага Ісуса, засталася людзям як знак перамогі над злом, нянавісьцю й сьмерцю, калі Хрыстос уваскрос.

Бел-чырвона-белая Турынская плашчаніца прызнаецца навукова пацьверджаным цудам і адной з галоўных рэліквіяў хрысьціянства. Гэты знак, белую палатніну з чырвоным крыжам, пачалі шырока выкарыстоўваць як сымбаль усяго хрысьціянства ў сярэднявечнай Эўропе. Сьцяг Хрыста зьяўляўся на абразах, вайсковых харугвах, мачтах караблёў – і зь цягам часу, у розных варыяцыях, увайшоў у велізарную колькасьць гербаў, вымпелаў і нацыянальных сьцягоў на ўсёй эўраатлянтычнай прасторы ў Старым і Новым Сьвеце. Дастаткова згадаць, што Ангельшчына дагэтуль мае сьцяг белы з чырвоным крыжам (і гэта яго спалучэньне зь сінім, таксама крыжовым, шатляндзкім штандарам, стварае знакаміты брытанскі «Юніён Джэк»), а сьцягі Швэдзіі, Нарвэгіі, Фінляндыі, Грузіі, Даніі, Швайцарыі й Ісляндыі ўтвораныя паводле розных колеравых камбінацыяў асноўнага Сьцягу Хрыста. Калі ёсьць штосьці, што лучыць на элемэнтарным, кодавым узроўні ня толькі Эўропу, але і ўсю заходнюю цывілізацыю – дык гэта, бясспрэчна, ён, адзін з самых старажытных і ключавых хрысьціянскіх знакаў.

Многія беларускія геральдысты, што вывучалі крыніцы зьяўленьня бел-чырвона-белага сьцягу, пісалі пра «Крыж сьвятога Юр'я», індаэўрапейскія архетыпы, сялянскія рушнікі, польскія прапары й яшчэ немаведама што – але чамусьці не заўважалі тае жывое сілы, тае імклівасьці й настойлівасьці, зь якімі ўсе 10 вякоў беларускае гісторыі скрозь працінае Сьцяг Хрыста. Прыняцьцё хрысьціянства і самой назвы Белая Русь; Сафія зь бел-чырвона-белае муроўкі; бел-чырвона-белая «Пагоня» у ВКЛ; Грунвальд – белыя харугвы з чырвоным крыжам; бітва пад Воршай – бел-чырвона-белыя сьцягі Хрыста на піках у вершнікаў... На каталіцкіх ды вуніяцкіх сьвятынях – паўсюдна Сьцяг Уваскрасеньня. Праваслаўныя патрыярхі (прыгледзьцеся, нават сёньня) – з абавязковай бел-чырвона-белаю паласою ў рызах. У беларускага гусарскага палка, створанага за Аляксандрам I – бел-чырвона-белыя сьцягі й какарды; і ў тых, хто ваяваў на баку Напалеона – таксама. І Касьцюшка, і Каліноўскі – пад сьцягамі зь белі й чырвані... І вось, у 1918-м (як пішуць некаторыя дасьледчыкі, «абсалютна нечакана») зьяўляецца той самы бел-чырвона-белы сьцяг БНР. Праз расстрэлы й пахаваньні ў Курапатах канца 30-х, праз вайну й партызанку, разруху й застой – да Курапатаў 1988-га, дзе ўпершыню пасьля дзесяцігодзьдзяў цемры ўспыхвае зноў.

Вось ён, сымбаль Беларусі. Ня «сала з праслоем мяса» й не скрываўлены бінт міфічнага князя-ваяра, пра які так любяць пісаць змагары-рамантыкі. Сьцяг Уладара й Пераможцы. Госпада, Збаўцы чалавецтва! Бліскучая бел-чырвона-белая ўсьмешка й захапляючы сьвітанак на Раство. Візуальнае ўражаньне яркага сьвятла.

Ён лунае ў паветры, нібы анёлавы крылы. «Зямля пад белымі крыламі» – ці не пра гэты сьцяг пісаў Караткевіч! У самыя трагічныя, моцныя моманты беларускае гісторыі скразіць, нечакана выблісквае, асьвятляе далягляды, як азарэньне, бел-чырвона-белы сьцяг – і зноў нагадвае нам пра тое, што адбылося 2000 гадоў таму.

Пагадзіцеся: дзе-дзе, а ў сымбалях выпадковасьцяў не бывае. Бел-чырвона-белы сьцяг Хрыста – наш найгалоўнейшы сымбаль, які ў адзінай трыядзе – герб, сьцяг, гімн – займае цэнтральнае месца. Сьвяты вобраз нашай гісторыі й нашага Адраджэньня. Няма нічога, што можа яшчэ мацней выразіць зьмест мінуўшчыны, унікальнасьць сёньняшняга часу й веру ў будучыню Беларусі.

Бел-чырвона-белы сьцяг, гарачая чырвань на белым у гарманічнай прапорцыі 2:1, кадыфікуе формулу беларускае духовасьці. Чысьціню й ісьціну. Сьвятасьць і сілу. Боль і любоў. Ахвяру – і ўваскрасеньне дзеля збавеньня іншых. Бель і кроў, зь якімі дасталася нам незалежнасьць. Бель, якую так лёгка запляміць, і кроў, якую так цяжка аддаваць.

Для тых, хто носіць бел-чырвона-белы сьцяг на грудзях, гэта – асабістая рана, што баліць увесь час.

Гэта трэба бачыць. Чырвонае, пунсовае, барвовае, пурпуровае на белым проста сьвеціцца. Сыходзіць унутраным сьвятлом і праменіць сэнсам.

Учытайцеся – бо гэта імя. Беларусь.

*Кніга Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# Выбірай адэкватнасць!

**Калі ў тваіх руках наша газета, напэўна, ты малады хлопец або дзяўчына. Можа нават студэнт адной з беларускіх вну. Гэта добра, бо менавіта да цябе нашае слова. Мы такія ж як і ты – маладыя беларусы. Толькі мы ўжо паспелі зразумець, што наша будучыня, нашага ўніверсітэта, сям'і ды краіны ўвогуле залежыць ад нас саміх. Будучыня залежыць ад нашай адэкватнасці і разважлівасці ў выбары жыццёвай пазіцыі адносна навакольнага свету. Спадзяемся, што ты таксама неабыякавы хаця б да сябе.**

Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты – гэта моладзевая палітычная арганізацыя. Мы не баімся слова «палітыка». Разумеем, што калі не мы будзем займацца ёю, то яна зоймецца намі. Мы хочам самі вырашаць, якіх палітычных поглядаў нам прытрымлівацца. Мы не хочам дзейнічаць у межах арганізацый, якія дзейнічаюць на «дабраахвотна-прымусовым» прынцыпе. Наша задача – паказаць актыўнай і творчай беларускай моладзі, што ў БРСМа ёсць альтэрнатыва. МХД – адэкватная альтэрнатыва для сучаснай праеўрапейскай моладзі ў нашай краіне. Мы ўжо сталі часткаю грамадзянскай супольнасці. Мы адкрыта, але разумна выказваем сваю пазіцыю. Мы не застаемся абыякавымі да існуючай складанай сітуацыі з асноўнымі правамі і свабодамі ў Беларусі. Калі заўтра ты хочаш жыць у краіне адэкватных паняццяў, то ўжо сёння трэба пра гэта паклапаціцца. Рэчаіснасць ставіць перад моладдзю выбар: ці застацца прыгоннай гайкай у краіне шурупаў, ці жыць у нармальнай еўрапейскай краіне? Выбар за табой.



## Што такое МХД?

**МХД – каманда ініцыятыўнай і творчай моладзі. Галоўнымі прынцыпамі нашай дзейнасці з'яўляюцца хрысціянскія каштоўнасці, на якіх, у прынцыпе, збудавана ўся эўрапейская цывілізацыя. МХД гуртуе вакол сябе моладзь крытычнага мыслення, якой не абыякавы мінулы, сучасны і будучы стан нашай краіны ў агульнаэўрапейскім кантэксце. Таму запрашаем далучыцца да нас, каб наша каманда стала яшчэ мацней і прынесла беларускаму грамадству яшчэ большы плён!**

**Лістуй нам:**

**bcdyouth@gmail.com**



### Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газеты «Крыніца«, буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Марына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 10 траўня 2012 г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.